## ДУА «Сярэдняя школа №37 г. Магілёва»

# 2012 год –  Год кнігі ў Беларусі




# У свеце кніг маёй Айчыны

## Спецвыданне школьнай газеты
## “БОЛЬШАЯ ПЕРЕМЕНА”

# Дарогамі кніг у свет дабра

“Дарогамі кніг у свет дабра” – пад такім дэвізам з 27 лютага па 5 сакавіка 2012 года прайшоў Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі ў ДУА “Сярэдняя школа № 37 г.Магілёва”.
Нягледзячы на тое, што гэтае мудрае і радаснае свята крочыць па краіне Дзяцінства вось ўжо больш за 70 год, яго значнасць з часам толькі ўзрастае.
2012 год у Рэспубліцы Беларусь аб’яўлены Годам кнігі. Задума гэта ўзнікла менавіта таму, што ў век электронных тэхналогій і адпаведнага ўспрымання літаратурнага тэксту неабходна захаваць культуру чытання кніг. Праблемай зніжэння цікавасці да чытання занепакоены прадстаўнікі ўлады. Кіраўнік дзяржавы А.Лукашэнка на сустрэчы з членамі грамадскага аб’яднання “Саюз пісьменнікаў Беларусі” закрануў праблему страты кнігай у сённяшні час свайго ранейшага значэння. “Для мяне катастрофа ўсё, што адбываецца сёння. Я вельмі баюся страціць кнігу. Для мяне няма нічога каштоўнейшага за кнігу”, - сказаў Прэзідэнт.
Зніжэннем чытальніцкай цікавасці моладзі занепакоены і выкладчыкі. Якія ж бачацца шляхі выхаду з праблемнай сітуацыі?
Эпізадычная работа не вядзе да вырашэння праблемы. Неабходна дакладна прадуманая сістэма работы па далучэнню дзяцей да чытання не толькі на ўуроку, але і ў пазакласнай дзейнасці.
Мэтай правядзення Нядзелі дзіцячай і юнацкай кнігі стала далучэнне дзяцей і падлеткаў да лепшых узораў літаратуры і мастацтва. Раскрыццё маральнага патэнцыялу мастацтва, як сродка фарміравання і развіцця эстэтычных прынцыпаў асобы дзіцяці.
Асаблівасцю свята з’явілася тое, што яно было задумана як калектыўнае творчае справа: конкурсы, віктарыны, гульні, праводзіліся па калектыўна састаўленым сцэнарыям, у рэалізацыі якіх прымаў удзел кожны вучань.
На працягу Тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі працавалі секцыі:
літаратурназнаўчая (аналіз чытацкіх фармуляраў, анкетаванне, абмеркаванне любімых кніг вучняў);
мастацтвазнаўчая (конкурс малюнкаў “Вокладка любімай кнігі”, фотарэпартаж “Мы – чытачы”);
літаратурна-творчая (конкурс чытальнікаў “Хто шмат чытае, той многа знае”, віктарына да юбілею Я.Коласа“Вобразы мілыя роднага краю”, віктарына “Выратуй героя кнігі”, літаратурны вечар “Усё пачынаецца з любві”)
Дыяпазон мерапрыемстваў вельмі шырокі і разнастайны: экскурсіі ў бібліятэку, конкурсы, літаратурныя віктарыны, фотарэпартажы, афармленне стэндаў, акцыя “Увага! Буккросінг!”
“Некоторые книги незаслуженно забываются, но нет ни одной, которую бы незаслужено помнили” (Одэн). Гэтыя словы сталі напраўлячымі для вучняў-карэспандэнтаў, якія рыхтавалі тэматычныя выпускі аб кнігах юбілярах.
Падвядзенне вынікаў і ўзнагароджанне правадзілася на прыканцы Тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі. Пераможцы і актыўныя ўдзельнікі атрымалі дыпломы.
Разнастайныя формы работы па фарміраванню цікавасці да кнігі ствараюць шырокія магчымасці для праяўлення і развіцця лтаратурна-мастацкіх схільнасцей, вучняў, спрыяюць далучэнню дзяцей да цудаўнага свету кніг.

***Кныш Цімафей, вучань 10 ”А” класа***
***Міхайлава Н.В. настаўнік рускай мовы***



2012 ГОД КНІГІ

Афіцыйны лагатып года кнігі




Наша духоўнае багацце




Прэзентацыя новай кнігі



"Што новага ў беларускім кнігавыдавецтве?.."

*Мы прыйшлі ў кнігарню з мамай.*
*На паліцах – безліч кніг!*
*Тоўстых, тонкіх – розных самых.*
*Цэлы свет – у кніжках тых.*
*– Я куплю табе вось гэту…*
*Гэту й гэту варта ўзяць…*
*Ты пра ўсе краіны свету*
*З гэтых кніжак будзеш знаць…*
*– Ой, як добра! Дзякуй, мама!*
*Я пра іх чытаць люблю,*
*Толькі знаць хачу таксама*
*Я пра нашую зямлю.*

*І яшчэ – за што, няйначай,*
*Буду ўдзячна я ўдвайне –*
*Ты купі на мове нашай,*
*Беларускай, кніжку мне.*
*То ж Айчыны нашай мова,*
*Мова прадзедаў, бацькоў.*
*У той мове што ні слова –*
*Дыямент жывы вякоў.*
*Невук – хто яе не цэніць.*
*Ці ж магу я здраджваць ёй:*
*Я ж не нейкі адшчапенец,*
*Я ж не нейкі чужаземец*
*На святой зямлі сваёй!*

*К.Цвірка*

**Крапіва, безумоўна, вялікі майстар байкі і камедыі, але ён і добры лірычны паэт і цудоўны бытапісец.**

***П.Глебка***

**К.Крапіва "Хто смяецца апошнім".**
**Тэатралізаванае знаемства з дзеючымі асобамі. Урок беларускай літаратуры . клас.**







**Вернісаж па кнігам Васіля Быкава**

## Урок-праект па беларускай літаратуры ў 9 класе
## Тэма: Францыск Скарына. Жыццё і творчая дзейнасць

У кнігах схавана мудрасць, як моц у дарагім каменні, як золата у зямлі, як ядро ў арэху.

*Ф. Скарына*



# Увага! Буккросінг!

Калі вы яшчэ не ведаеце, што такое буккросінг – самы час даведацца пра гэта. Мы запрашаем усіх аматараў чытання прыняць удзел у захапляючым праекце! Буккросінг у перакладзе з англійскай мовы абазначае “кнігаварот”. Гэта новы грамадскі рух, у якога ёсць паклоннікі ва ўсім свеце.

Прынцып буккросінгу складаецца з простага дзеяння: прачытаў кнігу сам, а пасля аддаў другому. Кожны можа ўнесці свой уклад у буккросінг, прынесці прачытаную кнігу і пакінуць яе на стэндзе, каб адсюль яна пачала займальнае падарожжа, знаходзячы ўсё новых чытачоў і радуючы іх.

Вы можаце браць гэтыя кнігі без запісу і чытаць іх у сябе дома або перадаваць сябрам. Калі ў вас ёсць кнігі, якімі вы можаце падзяліцца, то прынясіце іх на стэнд. Кожная прынесеная вамі кніга можа пазнаёміць з цікавымі людзьмі і змяніць ваша жыццё.

Такім чынам, кніга не сумуе на паліцы. Яна жыве і, нават, перамяшчаецца ў прасторы. А галоўнае – аб’ядноўвае людзей, якія любяць чытаць.

Месца абмена кнігамі – гэта стэнд на першым паверсе, і побач з ім ужо ёсць першыя чытачы.

Сардэчна запрашаем у краіну чытання!



# ПЕ-РА-ПЫ-НАК

## падслухана на перапынку ў бібліятэцы

Кожны па-сапраўднаму школьны дзень пачынаецца з АДКРЫЦЦЯ бібліятэкі.
**Бібліятэкар**. Цішэй, дзеткі! Хто першы?
***1-ы вучань.*** Дайце мне кнігу “Запіскі Самсона Самасуя”.
**Бібліятэкар**. А хто аўтар кнігі?
***1-ы вучань.*** Ну дык Самасуй, напэўна. Ён жа напісаў запіскі.
**Бібліятэкар**. Хто наступны? Слухаю вас.
***2-і вучань.*** А мне трэба кніга… ну, як яе? Мележ напісаў. “Людзі ў балоце”.
**Бібліятэкар**. Можа, “Людзі на балоце”?
***2-і вучань.*** Не, я ў дзённік запісаў, вось паглядзіце. (Паказваае дзённік).
**Бібліятэкар**. Але, Мележ напісаў “Людзі на балоце”.
***2-і вучань.*** Ну тады давайце “Людзі на балоце”.
***3-і вучань.*** Дайце мне, калі ласка, кнігу.
**Бібліятэкар**. Якую?
***3-і вучань.*** Ну, тую, якую нашы ўчора брали.
**Бібліятэкар**. “Байкі” Крапівы?
***3-і вучань.*** Не, здаецца… навелы Цвэйга.
**Бібліятэкарь**. Вазьміце. Хто наступны?
***4-ы вучань.*** (гаворыць вельмі хутка, часта збіваецца)
Дайце мне, калі ласка, толькі хутчэй, такую тоўстую кнігу. А то хутка званок. А мне вельмі трэба. Аўтара я не памятаю, на “Б”, здаецца.
**Бібліятэкар**. Багушэвіч?
***4-й вучань.*** Не.
**Бібліятэкар**. Быкаў?
***4-й вучань.*** Бядуля?
**Бібліятэкар**. А пра што гэта кніга?
***4-й вучань.*** Ну, там ён прыходзіць да яе, а яна ад яго ўцякае, а пасля ён паехаў, і яна таксама паехала.
**Бібліятэкар**. Гэта, напэўна, Якуб Колас “На ростанях”?
***4-й вучань.*** Ага, яна.
**Бібліятэкар**. А вы што хацелі ўзяць?
***5-ы вучань***. А мне, калі ласка, дайце Купалу.
**Бібліятэкар**. Вершы, паэмы, п’есу, што менавіта?
***5-ы вучань.*** А мне ўсё роўна. Галоўнае, каб на парце ляжала. Я яе чытаць не буду, затое і “двойку” не паставяць.

Дзеці, можа, хто пазнаў сябе сярод герояў гэтай мініяцюры?
Калі так, то мы прапаноўваем вам запоўніць анкету чытача.

***Пракапенка Глеб, вучань 10”А” класа***
***Сакратарова Таццяна, вучаніца 11 “А” класа***



# АНКЕТА ЧЫТАЧА

Дзіцячая кніга варта таго, каб яе перачытвалі з пакалення ў пакаленне, -…

Аб чым можна размаўляць з чалавекам, які не чытаў…

Не чытаў, але вельмі хачу прачытаць…

Мяне захапляюць людзі, якія прачыталі…

Кніга, якую чыталі ўсе, а вы не…

Цяжка прызнацца ў тым, але мне падабаецца чытаць…

Апошняя кніга, якую я не выпусціў з рук, пакуль не перагарнуў апошнюю старонку…

Я ніколі не чытаў…

Лепшыя творы пра каханне…

Зараз я чытаю…



# «... востраў надзеі – Буйніцкае поле»

## эсэ




*За полем поле, як за словам слова.*
*У спеве аб свяшчэнным, дарагім*
*Ёсць Барадзінскае, ёсць Кулікова*
*І гэтае вядомае не ўсім.*
*О поле бою, Буйніцкае поле!*
*Вясною, летам, восенню сырой*
*Выносіш ты ў разгорнутым прыполе*
*Мінулае - з каменнем і жарствой.*
**Аляксей Пысін**

Гэтыя радкі Аляксея Пысіна я ўзяла для эпіграфа невыпадкова. Перш за ўсё таму, што Аляксей Пысін – паэт-франтавік і наш зямляк. Ён нарадзіўся ў вёсцы Высокі Барок Магілёўскай вобласці. Яго пакаленню дасталіся цяжкія іспыты – выканаць свой грамадзянскі абавязак, абараняць Радзіму. Прыйшлося перажыць і перапалох, які быў выкліканы нямецкай акупацыяй, і ўвесь цяжар ваеннага часу. Аляксей Пысін – таленавіты беларускі паэт і журналіст, які бачыў усе падзеі 1941 года, змог у некалькіх радках вельмі дакладна сказаць пра значэнне Буйніцкага поля. Менавіта гэты верш выгрывіраваны пры ўваходзе ў мемарыяльны комплекс “Буйніцкае поле”.

Зусім нядаўна, калі я наведвала Буйніцкае поле , то імкнулася ўявіць падзеі ліпеня 1941 года. Нам, хто жыве зараз, і тым, хто будзе жыць пасля нас, магчыма, цяжка ў поўнай меры ацаніць подзвіг і гераізм салдат, якія абаранялі нашу зямлю. Мы жывём у дастатку, маем усе ўмовы для добрага жыцця і росквіту, пра вайну ведаем толькі з курса гісторыі, па фільмах, апавяданнях нашых бабуль і дзядуляў. Мы ніколі не бачылі гэтага сваімі вачамі, спадзяюся, што ніколі і не ўбачым. Можа таму нам іншы раз бывае цяжка зразумець слёзы ветэранаў, адчуць іх боль, зразумець выраз сталых людзей: “Толькі б не было вайны”. У бясконцых сваіх справах і праблемах, кругавароце падзей, якія паглынаюць нас кожны дзень, мы ўпускаем нешта важнае, аб чым нельга забываць ніколі: якой цаной дасталася Перамога. І страшна нават уявіць, што было б, калі б перамогу атрымала фашысцкая Германія! Магчыма, гэты тэкст некаму было б напісаць.

Наўрад ці ў Магілёве знойдзецца такі чалавек, які не ведае імя Канстанціна Сіманава – таленатвітага журналіста, пісьменніка, які прымусіў даведацца пра наш горад не толькі ўсю краіну, якая некалі называлася Савецкім Саюзам, але і далёка за яе межамі. Творчасць і біяграфія Канстанціна Сіманава назаўсёды звязаны з Магілёвам. У нас, магілеўчан, да гэтага імя асаблівыя адносіны. Пра яго мы ведаем ужо са школьнай парты, аб ім напамінаюць назвы вуліц і Буйніцкае поле.

Дванаццатага ліпеня, у час асады Магілёва немцамі, Сіманаў быў на Буйніцкім полі, на полі страшэннага бою разам з фотакарэспандэнтам Трошкіным.

Ім удалося адлюстраваць увесь жах таго, што адбывалася. За 14 гадзін бою была разбіта 39 савецкая тэхніка, у баях яна не ўдзельнічала, такія танкі і кулямёты пачалі выпускаць з 1943 г. Пад капліцай размешчана брацкая магіла, дзе пахавана 15 салдат, але вядомы імёны толькі двух з іх – Пагатоўкі Н.Л. і Аўчыннікава Б.А. Пра цікавае здарэнне расказала экскурсавод. Справа была ў тым, што аднаго з салдат, які загінуў на Буйніцкім полі, у мінулым годзе адшукалі сваякі. Сын і ўнук Гаронькіна Г.Ф. спецыяльна прыехалі з Брэста, каб паглядзець на месца, дзе змагаўся іх бацька і дзядуля. І гэта правільна, шанаваць памяць продкаў, на мой погляд, вельмі важна.

Унутры капліцы знаходзіцца маятнік у выглядзе зямнога шара, які гайдаецца над гербам Магілёва. Гэты маятнік – сімвал уклада магілеўчан у вызваленне свету ад карычневай чумы, сімвал вечнай памяці подзвігу і гераізму. Надпіс на капліцы гаворыць: “У 63 брацкіх магілах на тэрыторыі Магілёва і раёна пахаваны астанкі 82447 свавецкіх воінаў-абаронцаў і вызваліцеляў горада. Імёны 80938 невядомыя, як невядомыя і тыя, хто ляжыць у безымянных магілах у лясах, на палях былых баёў. Нават у дваццаць першым стагоддзі, стагоддзі высокіх тэхналогій і інавацый, бяссмерце застаецца для чалавека фантастыкай і недасягальнай марай. Ды і праўваць цыкл нараджэнне – рост – развіццё – старэнне – смерць немагчыма, гэта вечны баланс жыцця, на змену нечаму старому прыходзіць нешта новае. Але гавораць, што чалавек жывы, пакуль пра яго памятаюць.

У кожны, хто ўдзельнічаў у вайне, для мяне з’яўляецца героем. Я лічу, што гэтыя людзі здзейснілі немагчымае, яны не дазволілі ворагу прыгнеціць сябе і адстаялі мір на зямлі. Помнім пра іх мы і помніць Буйніцкае поле, якое стала для іх “востравам надзеі”.



*Быкава Алёна, вучаніца 11 “А” класа*



**Маё прысвячэнне кнізе…**

Няма чаго рабіць табе?
Вазьмі ў рукі кнігу.
Яна адкрые для цябе
Сваю цікавую інтрыгу!
З дзяцінства з кнігай дружам мы,
Расцём мы разам з ёю.
І кожны раз, і кожны час
Бярэм яе з сабою.

***Аўтар: Манкевіч Марыя,***
***вучаніца 5 "Д" класа***

5 «Д» КЛАС. ЭКСКУРСІЯ Ў ПОЛАЦК
МУЗЕЙ КНІГАДРУКАВАННЯ



Знаёмства з дзіцячымі каталогамі

Выстава-казка
“Беларуская казка – розуму падказка”




# Наша школьная бібліятэка

Казка –
Ад нашай зямлі
І яе людзей.
Яна – чароўны сон
І яна –
Думка чалавека
У. Караткевіч




Жытнёвае поле, лясы і азёры,
Крынічанька ў лузе і ў небе жаўрук, -
Услухайся толькі – усё тут гаворыць:
Люблю цябе Белая, Белая Русь
У. Карызна

Знаёмства з кнігамі на роднай мове




Паэзія – гэта невычэрпная
крыніца хараства нашага народа.
В. Коўтун

# Экскурсія ў Нацыянальную бібліятэку. Дзіцячыя ўражанні.

**Гонар краіны – Нацыянальная бібліятэка Беларусі** – найбуйнейшы інфармацыйны, сацыякультурны і сацыяпалітычны цэнтр, дзейнасць якога накіравана на фарміравнне інтэлектаўльнага патэнцыялу нашага грамадства, на стварэнне неабходных ўмоў для інтэграцыі Беларусі ў адзіную сусветную інфармацыйна-культурную прастору.

*“Я заўважыла, што ўсе мы сталі больш сур’ёзныя і падцягнутыя, калі зайшлі ў чытальную залу бібліятэкі.”*
*Журкова Маргарыта*

*“Ніколі не думаў, што у бібліятэцы можа быць так цікава.”*
*Міхеева Вероніка*



*“Захацелася ўзяць у рукі кнігу, разгарнуць яе, сесці ў зручнае крэсла і чытаць, чытаць…”*
*Чыхуноў Даніэль*

*“Бібліятэка ўразіла сваім велічным выглядам. Мы сябе адчувалі там быццам у храме навукі.”*

# Беларускія пісьменнікі-юбіляры 2012 года















# Беларускій кнігі-юбіляры 2012 года







**35 гадоў**

У. Караткевіч "Зямля пад белымі крыламі" (1977)

**40 гадоў**

В. Быкаў "Абеліск" (1972)

В. Быкаў "Сотнікаў" (1972)

У. Караткевіч "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" (1972)

**45 гадоў**

Дубоўка "Жоўтая акацыя" (1967)

**50 гадоў**




В.Быкаў "Здрада" (1962)

В. Быкаў "Трэцяя ракета" (1962)

М. Танк "Мой хлеб надзённы" (1962)

**55 гадоў**

М. Танк "След бліскавіцы" (1957)

**65 гадоў**

Я. Колас "Рыбакова хата" (1947)

М. Танк "Кніжка пра мядведзя" (1947)

**75 гадоў**

М. Лынькоў "Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў" (1937)




М. Лынькоў "Міколка – паравоз" (1937)

**80 гадоў**

Я. Колас "Адшчапенец" (1932)

К. Чорны "Бацькаўшчына" (1932)

А. Кляшоў "Па песню, па сонца!." (1932)

**85 гадоў**




Я. Колас "У глыбі Палесся" (1927)

Я. Маўр "Чалавек ідзе" (1927)

Я. Купала "Магіла льва" (1927)

**90 гадоў**




Я. Купала "Спадчына" (1922)

М. Чарот "Завіруха" (1922)

М. Чарот "Босыя на вогнішчы" (1922)

**100 гадоў**

Я. Колас "Песні – жальбы" (1912)

Я. Купала "Сон на кургане" (1912)

# Кнігі-помнікі, незвычайныя кнігі



А яшчэ ў Нямеччыне ёсць вось такі сціплы помнік Томасу Ману.



Некалькі помнікаў кнізе можна сустрэць насупраць Музею сусветнага першадрукара Іагана Гутэнберга ў Нямеччыне.



У Ізраілі ў горадзе Хайфа на тэрыторыі палітэхнічнага інстытута знаходзіцца бронзавая скульптура ў выглядзе фаліянту, з якога высыпаюцца літары алфавітаў народаў свету.



У Каталоніі ў 1994 ўсталяваны помнік работы Джоан Броса, прысвечаны Каталонскай букіністычнай гільдыі.

# Кнігі-помнікі, незвычайныя кнігі



У культурнай сталіцы Расіі ўсталяваны помнік кнізе, якая ў сваю чаргу ўслаўляе сам горад словамі вялікага рускага класіка: “Люблю тебя, Петра творенье…”



Падчас кніжнага кірмашу ў польскім горадзе Леска ў 2008 годзе быў адкрыты помнік кнізе працы скульптара Анджэя Пітыньскага, які нечым нагадвае піцерскі варыянт. На закіды крытыкаў пра тое, што помнік выйшаў надта груваскі, аўтар зазначыў, што “друкаванае слова павінна быць важкім”.



Вось такі стос кніжак знаходзіцца перад адной з кнігарняў Пекіна.

А гэткі – у Злучаных Штатах Амерыкі.



# 130 год з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Я.Купалы і Я.Коласа






















**ПЫТАННІ КРЫЖАВАНКІ:**

1. Твор Тараса Шаўчэнкі, які чытаюць Сцёпка і Аленка ў аповесці Якуба Коласа «На прасторах жыцця»?
2. Горад, у якім жыў Якуб Колас у час Вялікай Айчыннай вайны.
3. Куток Беларусі, з якім у асноўным звязана педагагічная дзейнасць Якуба Коласа.
4. Твор А.С. Пушкіна ў перакладзе Якуба Коласа.
5. Казка Якуба Коласа, у якой галоўны герой гаворыць: “Чалавек я цёмны, няграматны. Які я кароль?”
6. Аповесць Якуба Коласа пра грамадзянскую вайну на Беларусі.
7. Адзін з псеўданімаў Якуба Коласа.
8. Кім працаваў бацька Якуба Коласа.
9. Беларускі горад ў якім Якуб Колас вучыўся ў семінарыі.
10. Сапраўднае прозвішча Якуба Коласа.
11. Імя хлопчыка з верша Якуба Коласа “На рэчцы”.
12. Прафессія Якуба Коласа.
13. Першы верш Якуба Коласа, за які ён атрымаў ад бацькі рубель.

# ДЫПЛОМЫ – ПЕРАМОЖЦАМ ЛІТАРАТУРНЫХ КОНКУРСАЎ







Вучні нашай школы



**Рэдкалегія:**
Кныш Цімафей, вучань 10 «А» класа
Курганава Святлана, вучаніца 10 «Б» класа
Сакратарова Таццяна, вучаніца 11 «А» класа

Гарэлік Ірына Паўлаўна – загадчык школьнай бібліятэкі, кіраўнік рэдкалегіі.
Галіноўскі Александр Уладзіміравіч – праграміст, макет і вёрстка

**Адрас:** ДУА "Сярэдняя школа №37 г.Магілёва"
212029, б-р Непакораных, 70